

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1995
СТУДЗЕНЬ
5
ЧАЦВЕР
№ 4/ 932
Цана
60 рублёў

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ

### В ПРЕЗИДЕНТСКОЙ КОМАНДЕ СНОВА ОТСТАВКА

Глава президентской администрации Леонид Синицын удовлетворил просьбу начальника управления общественно-политической информации Александра Федуты об отставке.

Свое заявление руководитель пресс-службы написал еще до Нового года. Однако тогда глава администрации отказался его подписать, заявив, что около месяца не отпустит Федуту с поста, а за это время «много воды утечет», и, возможно, Александр Иосифович сам заберет свое заявление. Федута воспринял отказ спокойно, согласившись, что горячиться не стоит, а надо посмотреть, как будут дальше разворачиваться события.

2 января неизвестным представителем власти был запрещен выход нескольких белорусских газет (»Газеты Андрея Климова», «БДГ», «Свабоды», «Фемиды» и др.). Мотивировка — нехватка типографских мощностей.

По сведениям из источников, заслуживающих доверия, бывший начальник управления общественно-политической информации намерен заняться журналистской работой в одном из независимых изданий.

### ЗА ВОПЫТАМ ДА НЯМЕЦКІХ ФЕРМЕРАЎ

Падпісаны пратакол Пагаднення аб супрацоўніцтве паміж Мінсельгасхарчам Беларусі і Міністэрствам харчавання, сельскай і лясной гаспадаркі нямецкай зямлі Паўночная Рэйн Вестфалія. Згодна з дакументам, нямецкі бок гатовы падзяліцца вопытам і аказаць дапамогу ў падрыхтоўцы фермераў, спецыялістаў па перапрацоўцы плодаагароднінай прадукцыі, вінаробаў і кветкаводаў. Першым крокам у гэтым напрамку з'явілася запрашэнне групы работнікаў Мінсельгасхарча і выкладчыкаў Жыліцкага саўгаса-тэхнікума для двухтыднёвай стажыроўкі на перапрацоўчых прадпрыемствах Германіі. У перыяд з красавіка па кастрычнік гэтага года з аналагічнай мэтай Паўночную Рэйн Вестфалію наведаюць 10 беларускіх фермераў. Нямецкі бок акажа Мінсельгасхарчу фінансавую дапамогу, а таксама бясплатна перадасць мікрааўтобус.

### ПОМОЩЬ ИЗ-ЗА ОКЕАНА

В августе минувшего года в Минском высшем военном командном училище на кафедре иностранных языков был оборудован лингвистический кабинет. Оборудование для него поступило из США в рамках программы «Саймет». На реализацию этой программы в 1995 году выделено 100000 долларов. Уже на днях должны поступить с американского континента в училище и методические материалы по изучению английского языка.

Сергей ВЕРЕЩАК.

### ДЕМОКРАТЫ НА ВЫБОРАХ ВЫСТУПЯТ ЕДИНЫМ ФРОНТОМ

9 января в Минске состоится заседание представителей демократических партий и движений Беларуси, участвующих в Совещании по формированию предвыборного демократического блока.

По словам лидера «Беларускага згуртавання вайскоўцаў» Н.Статкевича, возглавляющего секретариат Совещания, в ходе встречи будут согласованы списки выдвиженцев от партий и движений в депутаты Верховного Совета и распределены избирательные округа. По его словам, этому заседанию предшествовала огромная подготовительная работа, в результате которой было достигнуто принципиальное согласие всех без исключения демократических партий и движений Беларуси на создание жесткого альянса демократических сил с выдвижением только одного кандидата от блока в каждом округе. «При этом, — заметил Статкевич, — права партий и движений в блоке будут одинаковы вне зависимости от их размеров и популярности у населения. Это будет сотрудничество на равных. Во всяком случае, мы всеми силами стремимся к этому, ибо понимаем, что в противном случае блок просто развалится».

Касаясь непосредственно механизма выдвижения кандидатов, лидер БЗВ подчеркнул, что приоритетное право в определении кандидатур будет отдано региональным партийным структурам. По его словам, на случай, если возникнут сложности на этом этапе, участниками Совещания предусматривается возможность привлечения независимых экспертов, проведение мониторинга, сбор подписей за каждого из возможных кандидатов и т.д. «Мы не питаем иллюзий, — подчеркнул Статкевич, — что нам удастся достичь соглашения в каждом округе, однако сделаем все, чтобы демократические силы достойно выступили на предстоящих выборах в парламент».

Александр ПАТУТИН, РИД.

### КОРОТКО

**Здаецца, яшчэ больш цесным будзе супрацоўніцтва ў новым годзе паміж Міністэрствам знешніх эканамічных сувязей рэспублікі і Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэтам. Свае намеры аб гэтым яны падмацавалі адпаведным пратаколам, які падпісалі міністр Міхаіл Марыніч і рэктар Раман Карсека.**

**Умацоўваць узаемавыгадныя кантакты бакі маюць намер у розных напрамках. Сярод іх — стажыроўка студэнтаў і прадастаўленне работы ў міністэрстве некаторым выпускнікам вышэйшай навучальнай установы, правядзенне сумесных канферэнцый, семінараў, сімпозіўмаў па актуальных праблемах развіцця знешнеэканамічнай дзейнасці, навуковай экспертызы нарматыўных дакументаў.**

* * *

*В Национальном художественном музее Беларуси открыта выставка художественного шрифта «Лит-арт-94». Здесь представлены шрифтовые композиции, работы в жанре рекламного дизайна и сложные по технике исполнения трансформации формы буквы. Выставка продолжит свою работу до 16 января.*

* * *

**Рождественский подарок жителям Червенского района сделали представители аэропорта «Вена»: в стоматологическое отделение местной райбольницы прибыл из Австрии комплект медицинского оборудования широко известной фирмы «Сименс».**

* * *

*В Вооруженных Силах Республики Беларусь начался новый учебный год. В эти дни в частях и подразделениях идут занятия по проверке боевой готовности войск. Отрабатываются вопросы взаимодействия командования с военкоматами, местными властями. Личный состав совершенствует навыки работы на боевой технике.*

### У НОВЫМ ГОДЗЕ — З НОВЫМ ЭТАЛОНАМ ЧАСУ

Першы нацыянальны эталон часу распрацаваны ў рэспубліцы. Яго аўтарамі сталі спецыялісты Мінскага цэнтра стандартызацыі і метралогіі сумесна з адным з вядучых інстытутаў Расіі. Напярэдадні новага, 1995-га, года калегія Камітэта па метралогіі, стандартызацыі і сертыфікацыі зацвердзіла гэты эталон у якасці нацыянальнага эталона часу, частаты і шкалы часу Рэспублікі Беларусь.

Новы нацыянальны эталон часу ўяўляе сабой вялікі комплекс высокадакладнай апаратуры і забяспечвае кругласутачнае правядзенне работ па ўзнаўленню і захаванню адзінкі часу і частаты. Лабараторыя, у якой «захоўваецца» гэты час, пастаянна звярае сваё «вынаходства» з аналагічнымі эталонамі Германіі, ЗША, Францыі і Швейцарыі.

Што ж прымушае вучоных дабівацца такіх высокіх дакладнасцей вымярэння, і каму трэба гэта вынаходства?

— Без строгага і дакладнага захавання часавых інтэрвалаў немагчыма забяспечыць бяспеку руху наземнага і воднага транспарту, — паведаміў начальнік упраўлення метралогіі Белстандарта Мікалай Кусакін. — Неабходны эталон часу і для авіяцыі. Акрамя таго, ад дакладнасці гэтага паказчыка залежыць паспяховая работа тэлевізійных і радыёлакацыйных, радыё- і тэлефонных станцый, а таксама камп'ютэрных сістэм.

Цяпер гадзіннікі трывала занялі сваё месца на запясці кожнага чалавека. Купляючы гадзіннік, мы жадаем не проста ведаць час, а ведаць яго з максімальнай дакладнасцю. Цяпер, дзякуючы вынаходству нацыянальнага эталона часу, на пытанне «Колькі цяпер гадзін?» кожны зможа адказаць з найбольшай дакладнасцю...

Кацярына ВЫСОЦКАЯ, БЕЛІНФАРМ.

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в коммерческих банках на 5 января 1995 г.

| Наименование банка | Доллар США | | Немецкая марка | | Российский рубль | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | покупка | продажа | покупка | продажа | покупка | продажа |
| КОМПЛЕКС | 10615* | 10950 | 6706* | 7026 | 2.61 | 2.85 |
| БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 10850* | 11400 | 6960* | 7315 | 2.4 | 2.9 |
| БЕЛАРУСБАНК | 10584<br>10736** | 11312* | 6664<br>6796** | 7373* | 2.57* | 2.93* |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл. оп. упр.) | --- | 11050 | 6850 | 7150 | 2.5 | 3 |
| НАРОДНЫЙ БАНК | 10700 | 11100 | 6740* | 7040 | 2.65 | 2.82 |
| ПРОФБАНК | 10700** | 11000** | 6700** | 6900** | 2.75** | 2.9** |
| СБЕРБАНК | 10500 | 10800 | 6450 | 6850 | 2.5 | 2.7 |
| ОЛИМП | 10750<br>10772** | 11090<br>11145** | 6804<br>6818** | 7063<br>7099** | 2.75<br>2.86** | 2.95* |
| ДУКАТ | 10700* | 11100 | 6900* | 7200 | 2.5 | 3 |
| финансовая компания СОЛИД | 10750 | 11100 | 6650 | 6850 | 2.6 | 2.75 |
| МИЛАВИЦА филиал АКБ ДУКАТ | 10700 | 11150 | 6520 | 6950 | 2.3 | 2.8 |
| "ИНТЕРКОНТИНЕНТАЛЬ-СКВ" | с валютой не работает | | | | | |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор.дир.) | 10750 | 11100 | 6800 | 7050 | 2.6 | 3 |
| ВЕЛЕС филиал АКБ ДУКАТ | 10750 | 11080 | 6780 | 7150 | --- | 2.93 |
| ПОИСК | информация на 9.50 не получена | | | | | |
| Филиал N 1 банка "ОЛИМП" | 10700* | 10920 | 6700* | 6950* | --- | --- |
| ЕВРОПЕЙСКИЙ | 10750<br>10800** | 11000<br>11200** | 6900<br>6950** | 7000<br>7200** | 2.75* | 2.85<br>2.95** |
| ТРАНЗИТНЫЙ | 10600<br>10650** | 10920<br>11000** | 6500<br>6750** | 6900<br>7000** | 2.4 | 2.75 |
| БЕЛБАЛТИЯ | 10650 | 11050 | 6710 | 6800 | 2.5 | 2.85 |
| БЕЛИНВЕСТБАНК | 10600 | 11000 | 6500 | 7000 | 2.32 | 2.8 |
| МАГНАТБАНК, ф-л 001 | 10750* | 11200* | 6700* | 7100* | 2.5 | 2.8 |
| ГУБИСС-РЕСУРС (за рос.руб.) | 10600 | 10900 | 6300 | 6800 | 2.55 | 2.85 |
| НАЦИОНАЛЬНЫЙ БАНК (официальный курс для б/н расчетов) | 10700,00 | | 6865,14 | | 2,93 | |

* -- возможна операция за наличный и безналичный расчет

В течение дня курсы могут меняться, курсы головного управления банков могут несущественно отличаться от курсов, установленных в обменных пунктах.

Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Гревцова".



## РАЖДЖЭСТВЕНСКАЕ ПАСЛАННЕ

### МІТРАПАЛІТА МІНСКАГА І СЛУЦКАГА ФІЛАРЭТА, ПАТРЫЯРШАГА ЭКЗАРХА УСЯЕ БЕЛАРУСІ

*Небо и земля днесь пророчески да возвеселятся, ангели и человецы духовно да торжествуют: яко Бог во плоти явися...*
*Сцихира на лиции*

Узлюбленыя ў Хрысце праасвяшчэнныя архіпастыры, пастыры, богалюбівыя інакі і інакіні і ўсе верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы!

З года ў год з нязменнай дакладнасцю сусветнага кругазвароту надыходзіць вялікае свята Раджаства Хрыстовага. І як радасна адгукаецца яно ў нашых сэрцах, калі мы чуем лікуючы голас Царквы: «Хрістос раждается, славіте. Хрістос с небес, срящіте. Хрістос на землі, возносітеся. Пойте Господеві вся земля, і веселіем воспойте, людіе, яко прославіся» (1-я песня канона Раджаства).

Дзівосная падзея Нараджэння Хрыстовага адбылася, калі надышоў час, вызначаны Богам для прышэсця ў свет Месіі, Які «ўратуе людзей Сваіх ад грахоў іх» (Мф. 1, 21). Бязмежная і неспасціжная любоў Бога да рода чалавечага, да ўсіх нас. Ён Сына Свайго Адзінароднага пасылае ў свет, «каб кожны, хто верыць у яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае» (Ін. 3, 15-16).

Таму Адзінародны Сын Божы, сышоўшы з нябёсаў дзеля нашага збавення, нараджаецца ў горадзе Давідавым Віфлееме ад Вечнадзевы Марыі. Царква так апавядае пра гэта: «В вертепе вселился еси, Христе Боже, ясли Тя восприяша, пастыри же и волхви поклонишася. Тогда убо исполнися пророческая проповедь, и ангельския силы дивляхуся, вопиюще и глаголюще: слава схождению Твоему, Едине Человеколюбче» (Сціхіра на сціхоўні.)

Праасвяшчэнныя архіпастыры, богалюбівыя пастыры, інакі і інакіні і ўсе верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы, віншую вас з вялікім святам Раджаства Госпада Бога і Спаса нашага Ісуса Хрыста і вітаю з благаслаўленым Навалеццем!

Няхай пануе ў сэрцах нашых радасць аб Народжаным Богадзіцяці Хрысце (Лк. 2, 10-11), што асвятліла зямлю святлом Божай любові!

Сапраўды найвялікшую падзею святкуе Царква, адзначаючы свята Раджаства Хрыстовага. У гісторыі было шмат значных падзей, з'яўляліся вялікія асветнікі, навукоўцы, геніяльныя мудрацы. Але ўся гэтая веліч была чалавечаю, часоваю і аказалася зусім нязначнаю, калі адкрылася «вялікая Божая тайна: Бог з'явіўся ўцелясненым» (1 Цім. 3, 16). Не ў шыкоўных і бліскучых царскіх палатах нарадзіўся Той, Каго ўслаўляе Царква, а ў беднай Віфлеемскай пячэры; не мяккія пялены сталіся для Яго першым ложам на зямлі, а грубая салома ў яслях; не бліскучыя царадворцы акружалі яго калыску, а маўклівыя жывёлы ды ўбогія пастухі.

А паміж тым, гэтая калыска сталася крыніцай адраджэння і абнаўлення гібеючага свету, і якраз яна выклікала тое найвялікшае ўзрушэнне ў свядомасці людзей, перад якім блякне ўсё тое, што было зроблена калі-небудзь наймагутнейшымі з зямных уладароў. Іх дзеянні заўсёды абмяжоўваліся толькі вузкай зямной прасторай, а подзвіг Узлеглага ў яслях аднолькава датычыўся як зямлі, так і неба. Таму ўвесь свет і ўзрушыўся, а Віфлеемская калыска зрабілася тым самым цэнтрам, вакол якога пачаўся новы сусветны рух, — рух да адраджэння і жыцця бясконцага.

Таму сёння нашыя думкі цалкам звернутыя да Богадзіцяці Хрыста, і мы схіляемся перад веліччу Яго Божае любові, невымоўнай прамудрасці і міласэрнасці і разам з усёй Царквою славасловім Яго Нараджэнне.

Заклікаю вас, любасныя, узнесці шчырыя малітвы да Збавіцеля нашага, каб у новым годзе памножыліся ў сэрцах нашых, у жыцці нашым і ва ўсім свеце святло Яго Божага вучэння, дух розуму, дух прамудрасці і каб не змяншаліся, але квітнелі ў нас плады любові, дабра і міру.

**Узлюблёныя браты і сёстры!**

Вялікае свята да многага нас абавязвае. Святкаванне Раджаства Хрыстовага павінна абудзіць у душы кожнага з нас самыя лепшыя, самыя ўзвышаныя пачуцці. Мы павінны ўзрошчваць іх і памнажаць дзеля таго, каб жыццё нашае набыло сапраўдны сэнс, усталявалася на непарушным грунце, зрабілася годным нашага хрысціянскага звання.

І якім бы цяжкім ні быў цяперашні стан грамадства і нашых сем'яў, як бы ні вытанчаліся сілы зла, несучы бязладдзе ва ўсе сферы чалавечых зносінаў, мы пакліканы ладзіць жыццё сваё ў Хрысце — з братэрскай любоўю ставіцца адзін да аднаго, перанасіць нягоды адзін аднаго, шчыра і добрасумленна працаваць, ведаючы, што сапраўдным набыткам нашым з'яўляюцца добрыя справы.

Важна зразумець, што ўсе адмоўныя працэсы ў цяперашнім грамадстве — гэта вынік яго духоўнай спустошанасці, яго бязвер'я альбо малавер'я, яго аддаленасці ад Бога.

Духоўная дэградацыя грамадства, якая праяўляецца ў надзвычайным распаўсюджанні масавай псеўдакультуры, разнастайных відах акультызму, астралогіі і неаязычніцтва альбо проста абыякавасці да вышэйшых каштоўнасцяў, і прывяла нас да цяперашніх цяжкасцяў у эканамічным жыцці, з'явіўшыся самай глыбіннай прычынай таго, што адбываецца на паверхні грамадскага жыцця.

Хваробы сучаснага грамадства настолькі застарэлыя, а прычыны, якія іх абумоўліваюць, настолькі глыбокія, што няма рэцэптаў для хуткага вылечвання гэтых хваробаў, для духоўнага ацалення.

Тут трэба зазначыць, што адны толькі сацыяльныя праекты не зменяць нашае жыццё да лепшага, не прывядуць да аднаўлення эканомікі і матэрыяльнага дабрабыту, калі па-ранейшаму ў грамадстве будзе пашырацца бездухоўнасць і ўзрастаць такая нядбайнасць да найвышэйшага ў чалавечым жыцці, якая пануе цяпер.

У гэты светлы святочны дзень не хацелася б шмат гаварыць аб сумным. Будзем памятаць, што ў жыцці ўсё адбываецца па волі Божай, і тое, што папушчана ўсім нам, — папушчана за грахі нашыя. Ускладзём сваю надзею на Міласэрнасць Божую і ўзгадаем тую Ахвяру, якую прынёс за нас Ісус Хрыстос, і з радасцю ў сэрцах звернем свае малітоўныя погляды да Нованароджанага Богадзіцяці.

Гасподзь чакае ад нас, каб мы ладзілі сваё зямное жыццё, як падрыхтоўку да Жыцця Вечнага, і каб нашае зямное жыццё з'явілася ўжо тут, на зямлі, пачаткам Вечнасці.

Ствараючы свет Хрыстоў у сваіх душах, у сваіх сем'ях, нягледзячы на ўсе цяжкасці сённяшняга дня, будзем, узлюблёныя, нястомна рабіць дабро людзям і памятаць запавет апостала Паўла: «Трывайце, стойце ў веры, каб былі мужнымі, цвёрдымі. Каб усё ў вас было з любоўю» (1 Кар. 16, 13-14).

Ад усяго сэрца віншую вас і ўсіх братоў-хрысціянаў розных канфесіяў, што славяць Госпада на беларускай зямлі, са святам Раджаства Хрыстовага! Няхай дасць нам Гасподзь моцы, няхай благаславіць нас Гасподзь мірам! Амінь.



ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

## ПРЭСА ПАД ПРЭСАМ

Таццяна ЛАЗОЎСКАЯ, «ДВ».

Учора адбылася прэс-канферэнцыя для прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі. Яе правялі галоўныя рэдактары газет «Свабода» Ігар Гермянчук, «Феміда» Ірына Сакалова, намеснік галоўнага рэдактара «Беларускай дзелавой газеты» Аляксандр Міхальчук.

Тэма прэс-канферэнцыі: адказ кіраўніцтва адміністрацыі Прэзідэнта на працяг дагавора Беларускага Дома друку з газетамі «Свабода», «Феміда», «Беларуская дзелавая газета», «Газета Андрэя Клімава» на 1995-ы год. Прычым, без папярэдняга ўзгаднення, папярэджання.

У сувязі з гэтым кіраўніцтва Беларускага Дома друку вылучыла наступны аргумент: друкаваць вышэйназваныя выданні не дазваляюць вытворчыя магутнасці. Але спадар Гермянчук сцвярджаў, што ў выдавецтва катастрафічна не хапае заказаў і яго магутнасці загружаны толькі напалову. Сапраўдная ж прычына, на яго думку, звязана са спробай шэрагу выданняў надрукаваць стэнаграму даклада дэпутата Антончыка аб карупцыі ў адміністрацыі Прэзідэнта.

— У нашай суверэннай дзяржаве, — адзначалі арганізатары прэс-канферэнцыі, — здзейснены цэнзурны пераварот, што супярэчыць артыкулу 4 Канстытуцыі, дзе сказана: «...манапалізацыя сродкаў масавай інфармацыі дзяржавай, грамадскімі аб'яднаннямі або асобнымі грамадзянамі, а таксама цэнзура не дапускаецца». Больш таго, цэнзура — гэта адзін з элементаў надзвычайнага і ваеннага становішчаў.

Аб гэтым таксама сказана ў Канстытуцыі.

Кіраўнікі газет «Свабода», «Феміда», «Беларускай дзелавой газеты» заявілі, што будуць выходзіць, незалежна ад ўціску з боку ўлад. Калектывы газет маюць намер апеліраваць да міжнародных праваабарончых арганізацый, а таксама звярнуцца ў суд.

## ЗАПРАШАЕМ НА КАЛЯДЫ!

Адпаведна праваслаўнаму календару, 7 студзеня святкуецца Нараджэнне Гасподняе — Ражство альбо, як гэта яшчэ прынята называць у народзе, Каляды. Гэтыя святкаванні бяруць свой пачатак з сівой старажытнасці і не губляюць сваёй прыгажосці і актуальнасці і ў нашыя дні.

Ужо сталася традыцыйным ладзіць народныя гульні на Каляды ў нашым горадзе. І на гэты раз мінчукам і гасцям сталіцы прапануем браць удзел у гэтым сапраўды народным святе.

Мерапрыемствы распачнуцца а 12-й гадзіне на плошчы Я.Коласа, а ў 13.00 у парку імя Горкага адбудзецца дзіцячае свята «Ехала Каляда», а 16.30 са сквера Я.Купалы па праспекце Ф.Скарыны рушыць вясёлае святочнае шэсце з удзелам калядных персанажаў, калядных гуртоў горада, фальклорных калектываў, якое а 17.00 прыпыніцца на плошчы Свабоды, дзе і адбудзецца адкрыццё народнага святкавання «Шчодры вечар», а 19.00 на праспекце Машэрава каля Палаца спорту арганізатары ладзяць гала-канцэрт з удзелам вядучых эстрадных выканаўцаў і фальклорных калектываў краіны і г.Мінска. Свята скончыцца там жа калядным вогнішчам і феерверкам.

Жадаем усім шчаслівых Каляд і чакаем вас на святкаваннях!

**Упраўленне культуры Мінгарвыканкама,**
**Цэнтр адраджэння і развіцця беларускай культуры.**

## АСВЯЧЭННЕ ШКОЛЫ НАПЯРЭДАДНІ РАЖСТВА

Блізкі ўжо дзень, калі Руская Праваслаўная Царква адсвяткуе Нараджэнне Хрыстова. Напярэдадні гэтай даты ў Мінскім прыходзе ў імя Іконы Божай Маці «Усіх смуткуючых радасцяў» адбыліся ўрачыстасці з нагоды асвячэння царкоўна-прыходскай школы, што тут будуецца. У іх узяў удзел і Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.

Марат УРУБЛЕЎСКІ.

## КАБЕЛЬНОЕ ВЕЩАНИЕ: КТО КОГО?

5 января в 15 часов в помещении Минского городского кабельного телевидения (ул.К.Маркса, 50) пройдет пресс-конференция по вопросам многоканального эфирно-кабельного вещания в Минске, которую организовывает МКТ.

Ввиду того, что в последнее время в прессе стали появляться статьи, представляющие МКТ как организацию, которая стремится к монополизации кабельного вещания в Минске и одновременно рекламирует иностранную фирму «Космос TV» как богатого конкурента, руководство кабельного телевидения посчитало необходимым дать свои комментарии происходящему. Журналистам будут представлены документы, отражающие невидимую войну, которая велась последние полтора года по разворачиванию в Минске многоканального (до 16 каналов и более) вещания. Собравшимся также будет представлена переписка, в которой задействованы «Космос TV», кабельное телевидение, горисполком, Министерство связи и информатики и правительство.

